ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№6 (15) чэрвень 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# З Езусам па вуліцах Віцебска

**"У Гостыі ўкрыты Богачалавек" – далёка разносіўся спеў па вуліцах Віцебска 9 чэрвеня.**

■ **Кацярына Лаўрыненка**, *тэкст;*
**Ірына Грэйць**, *фота*

Угэты дзень, адсвяткаваўшы 7 чэрвеня Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста ў сваіх парафіях, вернікі-каталікі з усёй Віцебскай дыяцэзіі, не пабаяўшыся дажджу і пакінуўшы свае справы, з'ехаліся ў Віцебск, каб разам са сваім біскупам, святарамі і законнымі сёстрамі прайсці ў Эўхарыстычнай працэсіі вуліцамі горада і такім чынам скласці публічна вызнанне сваёй веры і пабожнасці да Найсвяцейшага Сакраманту.

Працэсія пачалася святой Імшой у касцёле Святога Духа пад кіраўніцтвам ксяндза Эдварда Друза SChr, дырэктара Душпастырскага цэнтра ў Мінску. На пачатку Імшы было ўрачыста абвешчана аб тым, што віцебскі ардынарый Уладзіслаў Блін менаваў канонікам Віцебскай катэдральнай капітулы ксяндза Паўла Кнурэка, пробашча парафіі Святога Апостала Андрэя ў Лынтупах.

У сваёй гаміліі падчас Імшы ксёндз Юры Марціновіч, дырэктар партала Catholic.by, казаў аб сутнасці сакраманту Эўхарыстыі: "Найсвяцейшае Цела і Кроў Езуса Хрыста з'яўляюцца нашымі лекамі ад грахоў. Святая Камунія, якую мы прымаем падчас святой Імшы, - самае каштоўнае ў нашай хрысціянскай веры".

Падчас гэтай святой Імшы юнакам і дзяўчатам з віцебскіх парафій біскуп Уладзіслаў Блін удзяліў сакрамант Бежмавання, падчас якога яны атрымалі Дар Святога Духа для мужнага вызнавання сваёй веры.

Пасля Імшы працэсія ўрачыста рушыла да кафедральнага касцёла Езуса Міласэрнага ў музычным суправаджэнні аркестра Віцебскай ваеннай камендатуры, спыняючыся каля стацыйных алтароў, каб паслухаць слова Божае. Працэсія скончылася ў кафедральным касцёле Езуса Міласэрнага блаславеннем, Найсвяцейшым Сакрамантам і ўрачыстым спевам "Цябе, Божа, праслаўляем.

Напрыканцы біскуп Уладзіслаў Блін адзначыў, што вернікі далі такое прыгожае сведчанне сваёй веры і дадаў: "Я вельмі ўзрушаны тым, што на працэсію прыехала ўся сярэдняя музычная школа з парафіі Барсукі (амаль 30 дзяцей разам са сваімі настаўнікамі). Дзеці сказалі, што яны не жадаюць ісці аглядаць горад, яны жадаюць маліцца. Дзякуй, дзеці, што маеце такую веру. Вы, прысутныя, здолелі паказаць, што можна быць шчаслівымі з Панам Богам. Дзякуй вам за вашую веру, надзею і любоў".

Пасля вернікі мелі магчымасць падсілкавацца ў кавярні кафедральнага касцёла, паразмаўляць у нефармальнай абстаноўцы са сваім біскупам Уладзіславам, святарамі і законнымі сёстрамі, а таксама паслухаць рэлігійныя спевы ў выкананні музычнага гурта пад кіраўніцтвам ксяндза Анджэя Каліцяка SDS.



## Увага! Падпіска на другое паўгоддзе 2012 года!




**Дарагія сябры!**

Ужо цэлы год, як выходзіць наша газета. Мы вельмі рады, што колькасць падпісчыкаў павялічваецца з кожным месяцам. Сёння іх – 670 чалавек.

Сапраўды, атрымліваць "Каталіцкі Веснік" праз пошту надзвычай зручна. Падпіска – адзіны спосаб пачытаць нашае выданне ў Брэсце, Мінску ці Гродне. Мы заахвочваем вас, дарагія нашы чытачы, падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **2000 рублёў**, на тры месяцы – **6000 рублёў**, на шэсць месяцаў – **12000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Апытанне**

Што паглядзець? Раяць каталікі на стар. 5



**Полацк**

Пра візітацыю біскупа чытайце на стар..5





**Глыбокае**

Пра фэст у гонар Святой Тройцы на стар. 3

**Лучай**

Фэст у гонар св. Андрэя Баболі. Стар. 2





# Свята ў Лучаі

**У суботу, 19 мая, Лучайскі касцёл Святога Юды Тадэвуша стаў цэнтрам шчырай малітвы і добрага настрою – тут адбылася ўрачыстасць у гонар Святога Андрэя Баболі. З такой нагоды сабраліся вернікі і святары не толькі мясцовай парафіі, але і госці з іншых куткоў Беларусі. Святочная Імша з удзелам хору з Дзеркаўшчыны, урачыстая працэсія, арыгінальны канцэрт, творчая "вёска майстроў" – усё гэта разам з выдатным сонечным надвор'ем зрабіла фэст яркім і запамінальным.**

■ **Іна Сняжкова**, *тэкст;* **Андрэй Мацур**, *фота*

Адчувалася, колькі сіл было ўкладзена ў падрыхтоўку мерапрыемства. У паветры ля касцёла развіваліся сотні стракатых сцяжкоў, былі арганізаваны бяспройгрышная латарэя і продаж сувеніраў, у тым ліку зробленых сваімі рукамі — вязаныя рэчы прадаставілі мясцовыя майстрыхі.

Моцную хвалю пазітыўных эмоцый, асабліва ў моладзі, выклікала выступленне папулярнага беларускамоўнага гурта "Рэха". Яго саліст з каларытнай знешнасцю Андрусь Такінданг зачараваў прысутных сваім незвычайным голасам і беларускамоўнымі песнямі.

"Фэст атрымаўся, але толькі дзякуючы вялікай працы парафіян. У падрыхтоўку ўключылася большая частка вернікаў, — адзначыў пасля ўрачыстасці ксёндз Мікалай Ліпскі. — Вельмі прыемна было прымаць у касцёле такую колькасць святароў. Спадзяюся, што і далейшыя ўрачыстасці ў нашай парафіі будуць праходзіць таксама ж шчыра і збіраць вялікую колькасць вернікаў".

Свята скончылася, пакінуўшы ў сэрцах прысутных шмат прыемных пачуццяў і ўспамінаў. А ўжо ў ліпені вернікі зноў збяруцца ва ўрачыстай атмасферы: тут адбудзецца фэст Святой Ганны. Касцёл сустрэне іх у яшчэ большай прыгажосці, бо сёння на яго тэрыторыі імкліва вядуцца будаўнічыя работы.

**Мосар**

## Ушанаванне святога Юстына ў Мосары

■ **кс. Аляксей Юркайць**

**Рэліквіі св. Юстына былі прывезеныя з Рыма і з 1838 года знаходзяцца ў касцёле ў в. Мосар Глыбоцкага раёна Віцебскай дыяцэзіі.**

Гэтыя рэліквіі для мосарскіх вернікаў на працягу многіх дзесяцігоддзяў сталі гонарам і каштоўнасцю, як герб. Яны ў вялікай пашане не толькі ў мосарскіх парафіянаў, але і ў жыхароў далёкіх ваколіц, нават на адлегласці больш за 100 кіламетраў. Ушаноўваюць святога мучаніка як каталікі, так і праваслаўныя.

Святочныя Літургіі ў Яго гонар праходзілі 2 і 3 чэрвеня. Людзі маліліся і дзякавалі Богу праз заступніцтва святога мучаніка Юстына за захаванне каштоўнага скарбу хрысціянскай веры, за Божыя дабрадзействы, цуды, за абарону святыні ў часы ваяўнічага атэізму, маліліся аб цвярозасці сем'яў, за дзяцей і моладзь.

Пасля ўрачыстай Святой Літургіі, якую цэлебраваў душпастыр парафіі ксёндз Аляксей Юркайць, прысутныя вернікі, нягледзячы на дажджлівае надвор'е, працягнулі святкаванне: спявалі песні і танцавалі прыгожыя даўнейшыя танцы разам з заслужаным народным фальклорным мастацкім ансамблем "Паазер'е" пад кіраўніцтвам Анатоля Собаля. Калектыў, між іншым, з'яўляецца лаўрэатам дзяржаўнай прэміі "За духоўнае адраджэнне".

З нагоды ўрачыстасці кожны мог набыць абраз святога Юстына і малітоўнік, у якім змешчаны малітвы, літанія на беларускай і польскай мовах да святога Юстына, а таксама гістарычны нарыс дзеяў, звязаных з рэліквіямі на нашай беларускай зямлі.

Як святы Юстын у пошуках "адзінага і праўдзівага Бога" знайшоў Хрыста, так і мы праз яго заступніцтва шукаем у сваім жыцці Бога – праўду і святло. Няхай жа святы Юстын, які ў Небе аздоблены мучаніцкай каронай, умацуе нас у сапраўднай хрысціянскай веры і шчырасці, каб мы былі годнымі Божага Валадарства.

**Мосар**

## З'явіўся сайт Мосарскай парафіі

**У інтэрнэт-прасторы з'явіўся сайт "Санктуарыя"святога Юстына – парафіі святой Ганны ў Мосары па адрасе http://mosar.vickyblog.com. На галоўнай старонцы ў рубрыцы «Пра парафію» можна даведацца аб жыцці і гісторыі святыні, пра яе фундатараў — графскі род Бжастоўскіх, пра рэліквіі святога Юстына і святароў, якія служылі ў парафіі.**

■ **кс. Аляксей Юркайць**

У рубрыцы «Душпастырская дзейнасць» можна даведацца пра парафіяльную раду, Літургічную службу, парафіяльны хор, колы "Жывога Ружанца" і душпастырскія ініцыятывы ў парафіі.

У раздзеле «Катэхеза» пададзеная інфармацыя пра падрыхтоўку да сакраманту Сужэнства і змешчаныя асноўныя малітвы на беларускай і лацінскай мовах, а таксама Літанія да святога Юстына-мучаніка.

На Дошцы Аб'яваў можна даведацца пра расклад Набажэнстваў, прыбіранне святыні, а для пілігрымаў ёсць Памятка і інфармацыя пра наведванне святыні і ўшанаванне святых рэліквій мучаніка Юстына.

У рубрыцы Анонсы і навіны наведвальнікі сайта знойдуць інфармацыю пра анонсы, апошнія навіны парафіі, артыкулы, разважанні, віншаванні і падзякі.

У бліжэйшы час будзе зробленая Скрыня малітваў, каб наведвальнікі маглі дасылаць свае інтэнцыі, у якіх будзем маліцца перад рэліквіямі святога Юстына, а таксама аб цвярозасці ў другую нядзелю кожнага месяца.

На сайце, з цягам часу, таксама будзе папаўняцца і Фотагалерэя. Наведвальнікі могуць пакідаць на сайце свае каментары і прапановы. Па ўсіх пытаннях вернікі таксама змогуць звярнуцца да душпастыра парафіі праз Кантакт.

Патрэбная інфармацыя для ўсіх ужо даступная, а сам сайт будзе яшчэ дапрацоўвацца і ўдасканальвацца. Таму шчыра запрашаем "наведваць" Мосарскую парафію ў інтэрнэце па адрасе: http://mosar.vickyblog.com

## Фэст у Будславе

*Сіняе неба над родным краем,*
*Ліпеньскі ранак, сонца і кветкі.*
*Крочым у Будслаў, марым, спяваем,*
*Маці Будслаўская, мы – Твае дзеткі!*

*Свеціш вякамі з Будслаўскай святыні,*
*Ты – наша радасць, наша сумленне!*
*Табе прысвячаем жыцця далячыні,*
*Словаў малітвы святое натхненне.*

*Прыгожая Панна з усмешкаю яснай*
*Нас сустракаеш з матчынай пяшчотай.*
*Дорыш нам ласкі, мары здзяйсняеш,*
*Якія Табе давяраем употай.*

*Тут мы спазналі радасць спагады,*
*Поціск рук шчырых, сяброўства і згоду,*
*І даравання правінаў усладу,*
*І Спакой Божы, спачынак з дарогі.*

*Як жа тут хораша, слаўна, прыгожа!*
*Навокал люд Божы, святарства чыны.*
*За гэтае свята дзякуем, Божа,*
*Цудоўнае свята нашай Айчыны.*

***Генавефа Дубіловіч**, в. Муляры*

## Пілігрымам

*Зноў узышлі над зямлёю зіхоткія зоркі канікулаў.*
*Зноў нас з табою да Буды шаноўнай паклікалі.*
*Зноў на шляху то спякота, то дождж,*
*То гарачы асфальт пад нагамі.*
*Ды да Цябе, наша слаўная Маці Будслаўская,*
*Ідуць ногі самі.*

*Мы ідзём і Табе ўхвалу нясём,*
*Шаноўная Маці Будслаўская!*
*Мы Табе прывітанне нясём*
*Ад удзячнага люду браслаўскага.*

*Слаўных хлопцаў, дзяўчат вясёлых*
*Вітаць я заўсёды гатовы.*
*І, паверце, ад шчырага сэрца*
*Ідуць тыя словы.*

***Казік Ляшчэвіч з Пархвенава***

**Віншаванне**

*Шчыра віншуем айца Томаша Юнчыка з Днём нараджэння і Днём імянінаў. Хоць зараз ён далёка ад нас, але мы яго вельмі любім і чакаем сустрэчы.*

*Жадаем Вам, айцец Томаш, моцнага здароўя і Божага благаслаўлення!*

*Галіна Глушкевіч, Вольга Несцяронак, Алімпія Цішко ад імя ўсіх вернікаў з парафіі св. Яна Хрысціцеля, в. Валкалата*

**Віншуем!**

***Паважаная Яніна Вільчынская з Падсвілля!***

*Сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння і імянінамі. Жадаем моцнага здароўя, светлай радасці, Божай ласкі і апекі Маці Божай Вам і Вашым родным. А таксама многіх гадоў жыцця!*

*Сям'я Кулік з Гродзенскай дыяцэзіі*

# Святкавалі разам

*"У Тройцы адзіны Бог адзінасутны,
Ойча і Сыне, з Духам Усемагутны.
У Трох асобах Бог адвечнай славы,
Будзь нам ласкавы!"*

**Дзень Святой Тройцы святкавалі разам з вернікамі Глыбоцкай парафіі ў іх цудоўным касцёле мы, пастаўчане, а таксама вернікі з Лынтупаў, Опсы, Далёкіх.**

■ **Аліцыя Трафімовіч**, *г. Паставы*

Праграма I Міжпарафіяльнай пілігрымкі ўдзельнікаў "Руху да лепшага свету" была добра падрыхтаванай і вельмі насычанай, за што мы вельмі ўдзячныя святарам Мечыславу Янчышыну і Анджэю Возьняку.

2-га чэрвеня нас сустракалі ў касцёле, дзе мы пазнаёміліся, прысутнічалі на Святой Імшы, спявалі песні хвалы Святой Тройцы. На вячэру і начлег былі запрошаныя актывістамі парафіі. З гэтай нагоды хачу выказаць асабістую ўдзячнасць цудоўным жанчынам Тэрэсе Анашкевіч і Марыі Літвін. Няхай Добры Бог беражэ іх і іх сем'і.

На другі дзень мы працавалі ў групах, дзе кожны выказаў сваю думку аб ролі парафіі ў яго жыцці: ці з'яўляецца сям'я хатнім касцёлам, як наша штодзённае жыццё вызначае наша збаўленне, які асабісты ўклад кожнага ў жыццё парафіі...

Падвядзенне вынікаў працы груп адбылося ў касцёле. Дыскусія атрымалася змястоўнай, бо "апанентам" выступаў а. Станіслаў Памыкала, які зрабіў слушныя заўвагі і грунтоўнае падагульненне.

Падчас Святой Імшы было паднашэнне дароў і асвячэнне караваяў. Пасля працэсіі са спевам Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса адбылося дзяленне хлебам. Таксама ў двары касцёла быў арганізаваны "салодкі стол" для ўсіх удзельнікаў фэсту. Напрыканцы свята нас парадавалі канцэртам мясцовыя артысты. Адным словам, усё было цудоўна!

Ад імя нашай пастаўскай групы выказваю шчырую падзяку арганізатарам, адказным, святарам за правядзенне пілігрымкі, якая не толькі яднае нас з Богам, але і гуртуе вернікаў, бо ў адзінстве наша вера і моц.

У будучым годзе мы спадзяёмся на сустрэчу ў нашай Пастаўскай парафіі Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ.



**На здымку:** вернікі дзеляцца хлебам.

# Жыццёвыя веды

**Сучасны свет накіроўвае маладых людзей на поспех, кар'еру, дзеля чаго яны імкнуцца абавязкова атрымаць вышэйшую адукацыю. З іншага боку, ёсць веды, вельмі неабходныя ў нашым грамадстве, але іх не гарантуе дыплом аб вышэйшай адукацыі.**

■ **Кацярына Лаўрыненка**

Пра каштоўнасць чалавечага жыцця ад моманту зачацця і да натуральнай смерці, пра адказнасць за гэтае зачатае жыццё – пра ўсё гэта расказвалі студэнтам-першакурснікам гістарычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава актывісты Дабрачыннага фонду абароны жыцця і сем'яў "Адкрытыя сэрцы" і Душпастырства сем'яў Віцебскай дыяцэзіі Святлана і Аляксей Варанко. Яны – бацькі дзвюх дачок – наведалі alma mater 1 чэрвеня, у Дзень абароны дзяцей. Святлана і Аляксей пазнаёміліся падчас вучобы ва ўніверсітэце, пабраліся шлюбам і ў хуткім часе нарадзілася іх першая дачушка. Дзяржаўныя экзамены Святлана здавала, носячы пад сэрцам іх другую дачушку. Таму ім, безумоўна, зразумелыя ўсе праблемы студэнцкага жыцця і студэнцкай сям'і.

Аляксей, муж і бацька, падзяліўся карысным досведам – узняў важнае пытанне адказнасці мужчыны. "Для дзяўчат – гэта натуральна, што яны будучыя маці, што ў іх будуць дзеці. Хлопцы ж часцей за ўсё пра гэта не задумваюцца. І раптам, ты – бацька і павінен несці адказнасць за сваё дзіця", – казаў ён. Вядома, што ў нашым грамадстве часцей за ўсё выхаваннем хлопцаў займаюцца менавіта жанчыны. Часта гэта толькі адна маці, выхавацелькі ў дзіцячых садках, школьныя настаўніцы... У выніку не толькі хлопцам не хапае якраз мужчынскага ўплыву, але нярэдка і дзяўчаты не бачаць вакол сябе нармальнай мужчынскай мадэлі паводзінаў. Акрамя гэтага, неяк так ужо склалася ў нашым грамадстве, што і вырашэнне пытанняў, звязаных з сямейнымі праблемамі, лягла акурат на жанчынах. Таму, вядома, выступленне мужчыны пры абмеркаванні падобных тэм было больш чым каштоўным.

Падчас спаткання са студэнтамі Святлана і Аляксей расказвалі і пра жаночую фізіялогію, якім чынам праходзіць фарміраванне новага жыцця ва ўлонні маці. Гэта добра прадэманстраваў шасціхвілінны ролік, што пераглядзелі студэнты. Таксама была ўзнятая і праблема пагрозы пачатаму жыццю. Закранаючы тэму абортаў, Святлана паказала маленечкую ляльку: акурат такога памеру дасягае трохмесячнае дзіця ва ўлонні маці, якое, паводле нашага заканадаўства, жанчына можа забіць, зрабіўшы аборт абсалютна легальна. Гэта ўжо маленькі чалавечак, які мае ручкі і ножкі, а яго сэрца пачынае біцца на 18 дзень.

На заканчэнне сустрэчы студэнты падзякавалі сужэнцам Варанко за іх выступленне. Хочацца верыць, што, калі раптам у жыцці гэтых навучэнцаў узнікне дылема – "незапланаванае" дзіця ці кар'ера, – яны зробяць выбар менавіта на карысць захавання свайго дзіцяці, памятаючы, што ў гэтым свеце няма нічога больш каштоўнага за чалавечае жыццё.

# Абараніць жыццё

■ **Кацярына Лаўрыненка**

"Нарадзіўся сам – дапамажы іншаму". Пад такім дэвізам прайшоў другі беларускі аўтапрабег, прысвечаны абароне жыцця дзяцей, што знаходзяцца яшчэ ва ўлонні маці. Акцыя была прымеркаваная да Міжнароднага дня абароны дзяцей і праходзіла ў многіх гарадах СНД. У Беларусі аўтапрабегі прайшлі 1 чэрвеня ў Магілёве, а на наступны дзень – у Гомелі і Віцебску. Мэта акцыі – прыцягнуць увагу грамадства, улады і СМІ да праблемы сямейнага і дэмаграфічнага крызісу ў нашай краіне, выратавання жыцця дзяцей ва ўлонні маці. А задумацца сапраўды ёсць над чым. Паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, у 2011 годзе толькі афіцыйна зарэгістраваных было 30 тысяч абортаў. Гэта значыць, толькі за адзін год у Беларусі не ўбачылі свет 30 тысяч дзяцей – столькі жыхароў налічвае сярэдні па памерах горад у нашай краіне.

У Віцебску акцыя была сумесна праведзена Душпастырствам сем'яў Віцебскай дыяцэзіі і дабрачынным фондам абароны жыцця і сем'яў "Адкрытыя сэрцы". 14 машын са сцягамі "Беларусь без абортаў", "Подари жизнь", "За жизнь" праехалі па цэнтральных вуліцах Віцебска. Машыны дабраславіў душпастыр сем'яў Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Ежы Вільк SCJ. У аўтапрабегу ўжо другі раз удзельнічаў і а. Раман Шульц OP. Падчас падрыхтоўкі машын актывісты Фонду раздавалі мінакам інфармацыйныя буклеты з надпісамі "У Бога нет нежеланных детей" і "Детей много не бывает", дзе таксама былі пададзеныя нумары тэлефонаў даверу Фонду пры крызіснай цяжарнасці. У асноўным рэакцыя людзей была станоўчай, хоць іншым разам, бачачы, як жанчына рэагавала на прачытанае ў буклеце, было зразумела, што для яе гэтая тэма сапраўды вельмі балючая. Дарэчы, у адным з буклетаў ёсць надзвычай трапнае: "Калі мужчына кажа "на аборт", ён не кахае жанчыну, калі жанчына робіць аборт – яна не кахае мужчыну.

"Наш Фонд займаецца праблемай абароны жыцця з моманту зачацця да натуральнай смерці. Гэтай акцыяй мы хацелі звярнуць увагу грамадскасці на праблему абортаў, на дзяцей, якія знаходзяцца ва ўлонні маці і якім патрэбная большая абарона, – кажа актывіст Фонду Аляксей Варанко, бацька дваіх дачок. – Дзеці з'яўляюцца каштоўнасцю самі па сабе. Гэта не цацкі ў нашых руках. Дзіця – гэта асоба. Сям'я, у якой ёсць дзеці, атрымлівае новы імпульс для развіцця", – дадае ён.

"Для Беларусі праблема абортаў надзвычай вострая. Калі мы арганізоўваем такія акцыі, то дакранаемся да вельмі балючых сфер нашага жыцця. У той ці іншай ступені гэтая праблема закранула практычна кожную сям'ю. Але праўду аб каштоўнасці кожнага чалавечага жыцця мы хочам несці з любоўю. Дарэчы, многія скардзяцца на абставіны. Хто жадае нарадзіць – шукае магчымасці, хто не жадае – шукае апраўдання. Мы павінны ўбачыць каштоўнасць жыцця кожнага зачатага дзіцяці і пры жаданні заўсёды знойдзем магчымасць, каб захаваць гэтае жыццё, падарыўшы свету яшчэ адну цудоўную кветку", – працягвае яго жонка Святлана.

Аўтапрабег у Віцебску скончыўся Адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту і супольнай малітвай яе ўдзельнікаў у кафедральным касцёле Езуса Міласэрнага.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Фаіна Аршова** (г.п. Фарынава, Полацкі р-н), **Крысціна Шыхалай** (г. Глыбокае), **Ганарата Ляхновіч** (г. Барысаў), **Марыя Шкорнік** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **Людміла Кухальская** (в. Даравое, Пастаўскі р-н), **Аліцыя Трафімовіч** (г. Паставы), **Галіна Глушкевіч** (в. Віржы, Докшыцкі р-н), **Яна Парфяновіч** (г. Браслаў), **Тацццяна Парфяновіч** (г. Браслаў), **Паліна Тупека** (в. Дзеркаўшчына, Глыбоцкі р-н), **Марыя Садоўская** (г. Глыбокае), **Юзаф Хайноўскі** (г. Глыбокае), **Сафія і Ян Кулік** (в. Мікелеўшчына, Гродзенская вобл.), **Ганна Жылевіч** (в. Каменчане, Гродзенская вобл.), **Алена Муляронак** (г. Віцебск), **Вольга Несцяронак** (в. Віржы, Докшыцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас благаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця.

**Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"**

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №6(15) чэрвень 2012 г.



## Антаніна Бабарыка:

# Касцёл – гэта маё!

**Беларусь – свецкая дзяржава. Дзяржаўныя структуры і Касцёл у нашай краіне аддзеленыя. Аднак відавочна, што існуюць сферы дзейнасці, дзе неабходныя сумесныя намаганні Каталіцкага Касцёла і дзяржаўных інстытутаў. Пра такое супрацоўніцтва расказвае старшыня сельскага выканаўчага камітэта ў Валкалаце Докшыцкага раёна спадарыня Антаніна Бабарыка.**

**– Спадарыня Антаніна, як даўно Вы працуеце старшынёй у выканкаме?**

– У якасці старшыні я працую амаль год. Але вопыт працы ва ўладных структурах даволі вялікі, таму што з 1985 года працавала сакратаром у нашым выканкаме.

**– Можна сказаць, што гісторыя Валкалацкай парафіі праходзіла ў вас на вачах?**

– Так, сапраўды. Я добра ведаю ўсіх святароў, якія апошнія дзесяцігоддзі неслі службу ў нашым касцёле.

**– Раскажыце, калі ласка, у чым заключаецца супрацоўніцтва мясцовай улады з каталіцкай парафіяй, з духавенствам?**

– Напэўна, самае галоўнае – гэта выхаванне чалавека. Дабрыня, сціпласць, павага адно да аднаго – гэтыя прынцыпы вызнаюцца ў Касцёле. Калі б мы ў грамадстве імкнуліся захоўваць усё гэта, думаю, у нас было б нашмат менш праблем. Я як верніца Касцёла часта чую заахвочванні святароў да цвярозага ладу жыцця, чую пра пашану да ненароджаных дзяцей. А гэта ўсё тыя балячкі, якія вельмі хвалююць і прадстаўнікоў улады. Мы таксама робім розныя захады, каб перамагчы такія з'явы, як алкагалізм і дэмаграфічны крызіс.

**– А ці можна заўважыцьякі-небудзьплён ад такога супрацоўніцтва?**

– Ведаеце, важным фактарам з'яўляецца тое, што ў валкалацкім касцёле заўсёды быў ксёндз. Гэта і кс. Казімір Тамковіч у савецкія часы. Гэта і айцы-капуцыны, асабліва а. Пётр Ясевіч – у дзевяностыя гады і ў наш час. Таму святар для людзей – вялікі аўтарытэт. Менавіта з гэтай прычыны, думаю, у нас з 1985 года не было ніводнага дзіцяці на ўліку ў падлеткавай камісіі. Калі ўзяць шлюбы – у нас вельмі мала разводаў. І толькі чатыры нядобранадзейныя сям'і на ўліку ў выканкаме. Я лічу, такія дасягненні ў выхаванні людзей – гэта заслуга Касцёла, сям'і, школы і мясцовай улады. Але роля Касцёла тут выключная.

**– Цяпер вядзецца падрыхтоўка міжнароднага пагаднення паміж Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Беларусь. Магчыма, там знойдуцца і радкі, якія датычаць прысутнасці каталіцкіх святароў у школе. Як Вы ставіцеся да гэтага?**

– Канешне, станоўча. Евангельскія прынцыпы, якія прапаведуе Касцёл, толькі дапамогуць нам лепш выхоўваць дзяцей. Аднак гэтае пагадненне, якое Вы ўзгадалі, для валкалацкай парафіі можа быць і не быць. Таму што мы ўжо супрацоўнічаем са святарамі ў гэтым пытанні.

**– Як вера вам дапамагае ў жыцці, у працы?**

– Ведаеце, у мяне на працоўным месцы і абраз ёсць, і каляндар каталіцкі вісіць. Праца з людзьмі – дужа цяжкая праца. Усім не ўгодзіш. Таму часта прашу заступніцтва Маці Божай, прашу аб спрыянні, аб дапамозе. Я адчуваю Божую апеку. Вы, напэўна, здзівіцеся, але я – колішняя праваслаўная. Павянчаная патаемна ў касцёле. Дачку таксама хрысцілі, каб ніхто не ведаў. А вось з хростам сына ўжо мы дачакаліся свабоды рэлігіі. У касцёле мне вельмі ўтульна. Я ўсё разумею ў літургіі, якая адбываецца на роднай беларускай мове. Адчуваю, што касцёл – гэта маё.

**– Ваш пробашч айцец Пётр святкуе юбілей – 25-годдзе святарства. Што б Вы хацелі пажадаць яму?**

– Айцец Пётр Ясевіч – гэта святар ад Бога. Цяпер Бог яму даў такі цяжкі крыж, ён хварэе моцна. Таму хацелася б, каб стан здароўя яго не пагаршаўся. Мы яго не забываем, адведваем часта, тэлефануем яму. Замацавалі сацыяльнага работніка, каторы і есці зварыць, і абслужыць яго. Кожны дзень айцец адпраўляе Святую Імшу дома. На ёй заўсёды прысутныя вернікі. Хацелася б, каб яго не забывалі родныя і блізкія. Гэта самае галоўнае. А мы яго любім, памятаем і не кінем. Айца запрашалі ў кляштар браты-капуцыны ў Докшыцы. Але ён адмовіўся. І ведаеце, мне нават прыемна, што мы яшчэ можам паслужыць яму тут, у Валкалаце. Таму жадаем яму здароўя і доўгіх гадоў жыцця!

*Гутарыў*
*кс. Віктар Місевіч*

---

**Нэлі Бяляўская**

# Шлях святара

Адным з самых лепшых месяцаў у годзе для многіх з'яўляецца май. Цёплы, сонечны, у сціплым буйстве кветак, у чароўным прадказанні светлай будучыні. Самай лепшай парой ёсць апошні месяц вясны і для ксяндза Валкалацкай парафіі імя Яна Хрысціцеля. У маі айцец Пётр Ясевіч пачаў сваю святарскую дзейнасць і пасля 25-ці гадоў адзначыў юбілейную дату – чвэрць стагоддзя святарскага шляху. Звычайны чацвер 31 мая для прыхаджан валкалацкай парафіі, ды і не толькі, стаў адным з радасных дзён. У касцёле сабралася вялікая колькасць вернікаў, якія прыйшлі, каб пакланіцца Богу за святара, якога Ён ім паслаў, і выказаць удзячнасць ксяндзу, што служыць людзям і Богу верай, праўдай і цярпеннем.

Літургію ў гонар юбілейнага дня святарства вёў ксёндз Тадэвуш Кавальскі. Ён 10 гадоў служыў Богу і людзям на тэрыторыі нашага раёна – у розных парафіях Віцебскай дыяцэзіі. Пэўны час быў апекаваны айцом Пятром, вучыўся ў яго жыццёвай мудрасці, падтрымліваў яго ідэі ў навяртанні людзей да Бога, да веры ў Збаўцу чалавецтва.

На свята ў Валкалату прыехалі ксяндзы і браты-капуцыны амаль з усёй Беларусі. Даніну павагі за выхаванне людзей у любові да блізкага, захаванні асноўных Божых запаведзяў альбо маральных устояў аддалі сваёй прысутнасцю прадстаўнікі раённай і мясцовай улады, настаўніцтва, моладзь. Нават правядзенне свята апошняга школьнага званка было арганізавана так, каб пасля лінейкі ахвотныя мелі магчымасць трапіць у касцёл. На святой літургіі прыемна было бачыць побач з пажылымі людзьмі моладзь і дзяцей, сярод рабочых – інтэлігенцыю.

Ксяндзу Пятру Ясевічу дзякавалі за працу, шчырасць, адукаванасць, мэтанакіраванасць у вядзенні людзей да Неба. Раённы выканаўчы камітэт дзейнасць валкалацкага святара адзначыў ганаровай граматай райвыканкама і райсавета дэпутатаў, якую з цёплымі словамі падзякі і пажаданнямі здароўя, радасці, аптымізму і Божай ласкі ўручыла намеснік старшыні райвыканкама Валянціна Рандарэвіч. Удзячнасць і віншаванні гучалі з вуснаў старшыні сельскага выканаўчага камітэта Антаніны Бабарыкі, дырэктара мясцовай школы Ніны Падляшчук, работнікаў сельскага дома культуры, моладзі. А дзякаваць было за што: Валкалацкі сельсавет з'яўляецца адным з лепшых у раёне ў справе выхавання моладзі. Тут адсутнічае дзіцячае злачыннасць. Няма бацькоў, якіх бы пазбавілі іх правоў. Гучалі выказванні, што дабіваюцца гэтага агульнымі намаганнямі: улада, школа, рэлігія.

Хто ж такі ў гэтым ланцугу ксёндз Пётр Ясевіч? Што ў ім асаблівага? Адкуль бярэ чалавек сілы і мудрасць, што нават у такім стане праводзіць літургіі дома?

Перад намі ў святарскім адзенні сядзеў прыкаваны да крэсла чалавек. А між тым, адчуваўся яго моцны дух, прыцягваў да сябе мужны погляд, кідалася ў вочы нейкая разгубленасць у выглядзе слязінкі на шчацэ і нават збянтэжанасць ад "занадта вялікай увагі да яго персоны".

Нарадзіўся Пётр Ясевіч у простай сям'і ў Гродзенскай вобласці, на Ашмяншчыне. Бацькі яго, Баніслаў і Ядвіга, былі глыбокімі вернікамі-католікамі. Сям'я дружна хадзіла ў касцёл. Ранішнія і вячэрнія малітвы дома былі абавязковымі. Пётр адразу пасля школы пайшоў у войска, затым вывучыўся на кіроўцу і доўгі час працаваў у будаўнічай арганізацыі. Але святарства перамагло.

*Працяг на стар. 6*



фота Максіма Тамковіча

# Самы лепшы фільм

**У наш час фільмы з'яўляюцца адным са спосабаў уздзеяння на людзей. Што глядзіць чалавек, можам пазнаць па яго дзеяннях, паводзінах, словах.**

**У сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка" мы даведаемся, якім фільмам аддаюць перавагу нашы чытачы.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Алег Лубчонак:**
– Фільм – масавы від мастацтва. Ён дыктуе свае ідэі, а некаторыя актыўна навязваюць сваё меркаванне. Людзі часам імкнуцца быць падобнымі да галоўных герояў любімага фільма. Яны не маюць свайго "я", не задумваюцца, як бы зрабілі на месцы таго ці іншага героя. Найлепшыя для прагляду – навуковыя фільмы і рамантычныя камедыі, напрыклад, французская "Амелі" з удзелам Одры Тоту.

**Юлія Дубіна:**
– Я адказна стаўлюся да прагляду фільмаў. Люблю, каб яны былі добра зробленыя і мелі такі сюжэт, які натхняў бы на роздум. Канешне ж, адразу ўзгадваецца фільм "Хто ніколі не жыў" ("Kto nigdy nie żył") польска-французскага рэжысёра Анджэя Тэадора Севярына, а таксама фільм "Св. Эдзіта Штайн". Раю паглядзець рамантычную гісторыю кахання "Гордость и предубеждение" і фільмы з удзелам У. Сміта ("Семь жизней"). Адным словам нельга назваць жанр фільмаў, які мне падабаецца, але ў іх павінна быць цікавая ідэя і складаныя адносіны паміж людзьмі.



**Раман Грамбоўскі:**
– Мне даспадобы камедыі. Чаму яны? Бо ў іх можна знайсці павучальныя моманты ў выглядзе жарту. Смех працягвае жыццё, таму паглядзіце камедыю "Каманда А". Цікаўлюся "прадукцыяй" айчынных рэжысёраў. З задавальненнем гляджу фільмы на гістарычную тэматыку. У іх можна ўбачыць жыццё найвышэйшых чыноў, а таксама простых людзей. Гістарычная тэматыка дае ўяўленне пра мінулае, натхняе на думкі аб будучыні: "Пётр I", "Вайна і мір".



**Зінаіда Гаравец:**
– Самы любімы фільм – "Знесеныя ветрам". Ён дапамагае зразумець усе цяжкасці чалавечага існавання, а таксама падказвае, як прайсці жыццёвы шлях, калі на ім сустракаюцца перашкоды. Тут ёсць і любоў, і ўзаемадапамога, і сяброўства. Гэты фільм паказвае, што нельга апускаць рукі, сутыкнуўшыся са складанай сітуацыяй. Патрэбна ісці толькі наперад, верыць у тое, што анёл-ахоўнік заўсёды побач, заўсёды дапамагае, падтрымлівае ў патрэбны момант, калі няма сіл.



**Казімір Гаравец:**
– Люблю камедыйныя фільмы. У іх з жартам і сарказмам паказваюць, як часам людзі здзяйсняюць неразумныя ўчынкі, дзейнічаюць па-вар'яцку. Яны забываюцца, што побач – іншыя людзі, дзеці. А можа гэтыя людзі страцілі Бога? І такога кшталту "жарты" дапамагаюць знайсці няправільных сяброў і знаёмых. У камедыях нам паказваюць, чаму людзі так дзейнічаюць. Але калі чалавек з Богам, то любы фільм для яго будзе ярчэйшым і цікавейшым.



## Катэхетычны конкурс у Віцебску

**с. Дар'я Галубкова**

**20 мая ў Віцебскай парафіі св. Барбары адбыўся катэхетычны конкурс імя св. Юзафа з Капертына, арганізаваны выкладчыцамі катэхезы с. Дар'яй Галубковай і Ірынай Лігецкай. У ім узялі ўдзел 34 вернікі ва ўзросце ад 8 да 70 гадоў.**

Напрыканцы навучальнага года парафіяне, якія не пабаяліся праверыць свае веданне катэхізіса, літургіі, гісторыі Касцёла, паспрабавалі свае сілы ў напісанні тэсту. Тэст складаўся з пытанняў рознай формы і ступені складанасці. Удзельнікі конкурсу былі падзеленыя на тры групы: дзеці да 10 гадоў, дзеці 10-13 гадоў, моладзь ад 14 гадоў і дарослыя.

Трэба адзначыць, што большасць удзельнікаў рэгулярна наведвае катэхетычныя заняткі, пра што сведчаць добрыя вынікі тэстаў. Пераможцамі ў кожнай групе сталі тыя, хто набраў большую колькасць балаў. Сярод малодшых – Мілана Цітавец (9 гадоў) і Антон Шалепаў (12 гадоў). У старэйшай групе першае месца занялі адразу трое вернікаў, якія набралі па 42 балы з 50 магчымых: Алена Залозная (31 год), Уладзімір Залозны (28 гадоў) і Святлана Галубкова (57 гадоў). Усе ўдзельнікі атрымалі прызы.

Апекуном конкурсу быў абраны св. Юзаф з Капертына, італьянскі містык і цудатворца XVII ст., які з'яўляецца нябесным заступнікам студэнтаў, што здаюць экзамены, а таксама тых, хто мае праблемы з навучаннем. Добрыя ўражанні, вясёлы настрой, адказнасць, з якой падышлі да конкурсу ўдзельнікі, і іх імкненне глыбей пазнаць сваю веру – усё гэта пацвярджае патрэбу і карысць падобных мерапрыемстваў. Спадзяёмся, што такі конкурс будзе праводзіцца і ў далейшым і, магчыма, пашырыцца на іншыя парафіі.

## Узмоцненыя Духам Святым

**У дзень Спаслання Святога Духа Полацкая парафія св. Андрэя Баболі прымала з пастырскай візітацыяй біскупа віцебскага Уладзіслава Бліна.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

У гэты ж дзень 37 чалавек з рук біскупа прынялі сакрамант Бежмавання. Несучы ў дарах чырвоныя агеньчыкі, вернікі паказалі, што прынялі ў свае сэрца Духа Мудрасці, Розуму, Рады, Моцы, Умеласці, Пабожнасці і Боязі Божай. Дух Святы цяпер будзе дапамагаць ім у складаных жыццёвых сітуацыях, у вызнаванні і сведчанні веры.

Шчырыя віншаванні з нагоды 25-годдзя святарства, з усмешкамі і слязамі шчасця, склалі ксяндзу-пралату Францішку Кісялю ўдзячныя вернікі. Ксёндз-юбіляр прыгадаў свае святарскія пасвячэнні і душпастырскую працу за гэтыя гады, падзякаваў Пану Богу за дар святарства і за бацькоў, за самаахвярных вернікаў.

Ксяндза-пралата павіншавалі таксама і госці з Нямеччыны. Дэлегацыя з горада-пабрацімa Фрыдрыхсхафена прыбыла ў любімы Полацк, каб раздзяліць усеагульную радасць. З гасцямі вернікі танцавалі шмат гарачых народных танцаў і спявалі песні.

Пасля Святой Імшы моладзь і дзеці падрыхтавалі прысутным святочны канцэрт. У цікавай інсцэніроўцы пра мурашак маладыя людзі паказалі, што толькі еднасць дапаможа ўпэўнена прайсці праз жыццёвыя перашкоды. Прысутныя таксама маглі паласавацца стравамі, якія прыгатавалі парафіяне.

На працягу ўсяго дня ў Полацкай парафіі панавала атмасфера радасці, бо Дух Святы напоўніў сэрцы вернікаў і святароў сваёй незлічонай моцай.



*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №6(15) чэрвень 2012 г.

# Скарб на паддашшы

**Святы Андрэй Баболя – святар, мучанік, палымяны прапаведнік, самаадданы місіянер, «душахват», які евангелізаваў на Палессі і скончыў жыццё ў страшэнных муках, так і не адрокся ад сваёй ідэі еднасці хрысціян, быў забіты казакамі ў Янаве Палескім (зараз – Іванава Брэсцкай вобласці). Яго постаць, гісторыя жыцця з нядаўняга часу набылі асаблівае значэнне для нашай сям'і.**

**Лена Клімза**, *тэкст;* **Андрэй Мацур**, *фота*



Цяпер ўжо мала хто памятае і ведае, што яшчэ да вайны па дарозе Шаркоўшчына – Браслаў, паміж вёскамі Глісцёнкі і Сасноўцы, у мясцовасці званай Тарзянова, стаяла капліца ў гонар святога Андрэя Баболі. Побач знаходзілася школа, а зусім блізенька да капліцы стаяла хата, якую арандавалі ў тамтэйшага пана Андрэя Ананіча бабуля і дзядуля майго мужа – Ядзвіга і Антон Хвяцковічы. Яны і апекаваліся гэтай каплічкай. Сям'я была вялікая (бабуля нарадзіла 12 дзяцей, праўда, не ўсе выжылі). Яны былі вельмі пабожныя, добрыя, працавітыя людзі. У іх жыцці Бог заўсёды быў на першым месцы, а Святы Андрэй Баболя вельмі шанаваўся як нябесны заступнік.

Каплічка выглядала як звычайны Касцёл, мела вежы. Акрамя галоўнага, былі яшчэ і бакавыя алтары. І хоць не было арганаў, хоры ўсё ж спявалі. Пабудана была святыня на сродкі тутэйшага пана Андрэя Ананіча, які меў сялянскае паходжанне. Але, паводле легенды, знайшоўшы скарб, разбагацеў і ў гонар свайго нябеснага заступніка – святога Андрэя Баболі (праўда, спачатку блаславёнага, бо святым ён стаў толькі ў 1938 годзе), пабудаваў каплічку. Адзін раз на год, 16 мая, там спраўлялася набажэнства ў гонар Андрэя Баболі. Прыходзілі з Шаркоўшчыны і з наваколля вернікі са святочнай працэсіяй. Колькі іх было, можам толькі здагадвацца, бо, па словах Ірэны Антонаўны Хвяцковіч (гэта дачка Ядзвігі і Антона Хвяцковічаў), каб напаіць стомленых дарогай пілігрымаў, трэба было падрыхтаваць 7 вёдзер квасу.

Здарылася так, што ў вайну ад бомбы згарэла хата Хвяцковічаў, пасля была спалена і школа. Бабуля і дзядуля мусілі шукаць іншае жыллё: яны перабраліся ў Бяседнае. А вось каплічка, не кранутая ваенным ліхалеццем, так і працягвала стаяць у чыстым полі.

Прыкладна ў канцы 50-ых гадоў (ніхто дакладна не ведае) вернікі з Ёдаў вырашылі разабраць капліцу і перавезці ў сваю вёску, там адбудаваць. Але так і не атрымалі дазволу ад тагачаснай бязбожнай улады. Маёмасць капліцы вернікі разабралі па хатах і пахавалі, хто што мог.

Пра гэтую гісторыю наша сям'я даведалася амаль два гады таму, якраз едучы на фэст Андрэя Баболі ў Лучай. Выпадкова запрасілі паехаць з намі добрую знаёмую – Рэгіну Іпалітаўну Латышонак (Шатыбелка), жыхарку Шаркоўшчыны, ураджэнку тых мясцінаў. Яна і распавяла пра каплічку Андрэя Баболі ў Тарзянове. На жаль, дагэтуль мы нічога не ведалі, а нават і не чулі пра капліцу. Пасля пачалі цікавіцца ў вернікаў старэйшага пакалення, у родных і знаёмых. І аж з Італіі дайшлі весткі. Там жывуць унучка і праўнучка Хвяцковічаў. Менавіта Ванда Станіславаўна ўзгадала, што калісьці, у дзяцінстве (а зараз ёй ужо 60 гадоў), над яе ложкам вісеў крыж. Па словах яе таты, крыж гэты быў з каплічкі Андрэя Баболі. Пасля крыж знялі і схавалі на паддашшы. Так і праляжаў ён амаль 40 гадоў. Нават гаспадар дома не ведаў пра такі каштоўны скарб.

Цікава, што крыж быў у цудоўным стане. Адразу бачна, што быў ён зроблены сапраўдным майстрам, распяцце – з цэльнага дрэва. У даўжыню – паўтара метра. Амаль не кранутыя часам, толькі саракагадовы пыл быў на ім.

Але дзе знайсці пачэснае месца для такой святыні? Адзінагалосна вырашылі перадаць крыж Лучайскаму касцёлу, у якім знаходзіцца алтар святога Андрэя Баболі і штогод 16 мая ладзіцца фэст у гонар пакутніка. Тым больш ужо на працягу амаль пяці гадоў там служыць Богу і людзям наш славуты зямляк-ксёндз Мікалай Ліпскі – сын зямлі Шаркаўшчынскай, якім мы вельмі ганарымся.

У Вялікую пятніцу сёлета адбылося ўшанаванне Крыжа – нашага крыжа! Наша сям'я ўдзельнічала ў цырымоніі Вялікай пятніцы. Шкада, што не ўсе нашчадкі Хвяцковічаў засталіся вернымі Богу і касцёлу. Вельмі сімвалічна, што абапал Крыжа стаялі нашы сыны-міністранты – Вячаслаў і Станіслаў. Падыходзілі людзі, кланяліся крыжу, як і калісьці нашы продкі. Значыць, вера жыве!

Зараз крыж з каплічкі святога Андрэя Баболі размешчаны пры алтары пакутніка. Як успамін пра веру нашых продкаў, пра тое, як яны яе берaглі і баранілі.

У гісторыі Касцёла Божы Провід не аднойчы нечакана адкрываў і паказваў святога Андрэя Баболю ў самыя дзіўныя моманты. Магчыма, і сёння настаў час, каб ён сваім прыкладам умацоўваў нас у выкананні заданняў, якія Пан Бог прызначыў для кожнага з нас.

P.s. Звяртаюся з вялікай просьбай да ўсіх, а асабліва да жыхароў Ёдаў і наваколля. Калі хто штосьці ведае пра гісторыю капліцы ў Тарзянове, падзяліцеся, калі ласка, раскажыце нам.

# Шлях святара

*Пачатак на стар. 4*

Ён паступіў у Рыжскую духоўную семінарыю і пасля яе заканчэння быў накіраваны ў Крывічы. Адначасова працаваў у Валкалаце, якая неўзабаве стала яго прыходам.

– Работы было вельмі многа, – успамінае айцец Пётр. – У той час адвяргалася рэлігія, але многія жылі па Божых законах. Тайком хрысцілі дзяцей, вянчаліся, хадзілі да споведзі, маліліся за памерлых. Асабліва не дзяліліся на праваслаўных і католікаў, ішлі да святара, які быў, бо Бог – адзіны для ўсіх.

– І Вы адчувалі яго моцную руку? – пытаюся.

– Канечне, неаднойчы. Веру, што Ён мне дапамагаў пастаянна, бо ў рабоце не было вялікіх праблем: улада не перашкаджала, напрыклад, арганізоўваць для дзяцей урокі рэлігіі ў школе. Шмат было аднадумцаў, і розныя задачы вырашаліся лёгка. Заўсёды ўспамінаю добрым словам тагачаснага старшыню райвыканкама Іосіфа Падрэза. Дзякую сакратару, а цяпер старшыні Валкалацкага сельвыканкама Антаніне Бабарыцы, з якой нават ездзілі ў Віцебск, каб вырашыць іншыя праблемы. Меў паразуменне і з боку кіраўніцтва школы ў асобе Ніны Падляшчук.

Не аднойчы ратаваў мяне Бог ад нечаканай, раптоўнай смерці. На пачатку свайго святарства працаваў на два прыходы і ездзіў да вернікаў за 100 кіламетраў. Задрамаў у дарозе неяк. З'ехаў на абочыну. Прачнуўся ад таго, што пачуў шум вады пад коламі. Адкуль узялася там вада – аднаму Богу вядома.

– А ці былі сілы, якія супрацьдзейнічалі вашай хрысціянскай справе? Ці сустракалася на шляху цяга да забароненага, бруднага?

– Ды не. Выхаваны я быў так, што словы "нельга" і "грэшна" былі на першым месцы. Памятаю, яшчэ хлапчуком знайшоў на дарозе 5 рублёў. Дома думалі, каму аддаць, бо хтосьці ж іх згубіў. А ноччу нават спалася ад таго дрэнна. Хто не плануе рабіць дрэннае, таго і не цягне да брудных спраў.

– А вось сённяшні Ваш стан здароўя? Хвароба ног, прыкаванасць да крэсла. Гэта што: Божая кара, Ваш Крыж на зямлі?

– Цяжка адказаць. Адно вядома, што Богу не ўласціва насылаць на людзей калецтва. Бог – гэта сама дабрыня і спагада. А хворыя ногі – гэта, мабыць, вынік маёй дасвятарскай працы, выпрабаванне на цярпенне.

Пра цярпенне айца Пятра гаварылі многія. Сярод якіх і яго паслядоўнікі – тры ксяндзы – былыя валкалацкія хлапчукі. Двое з іх прысутнічалі на літургіі ў гонар свайго настаўніка і дарадцы.

Мы шмат гаварылі з ксяндзом Пятром Ясевічам пра сутнасць чалавека, пра справы зямныя, пра мітусілівасць сучаснага жыцця і пра тое, што нельга не заўважаць, як распускаюцца кветкі, як тчэ свае ўзоры павучок. Усё – тварэнне Бога, справа рук Вялікага Творцы. І гэтага нельга аспрэчваць. Едучы назад, размаўляць не хацелася, каб не парушыць тую ўнутраную радасць, перамешаную з супакоем, якія прысутнічалі ў час нашай гутаркі. Я дзякую ксяндзу за размову і жадаю яму здароўя.

**Шаноўны айцец Пётр Ясевіч!**

*Сардэчна віншуем Вас з імянінамі і Днём нараджэння. Жадаем Вам усіх патрэбных дабротаў. Няхай Маці Божая і Святы Анёл-Заступнік дапамагаюць Вам усюды і падтрымліваюць. Дзякуем вам за адданую службу Богу і людзям, за любоў і цярплівасць да нас!*

*Вернікі з парафіі св. Яна Хрысціцеля, в. Валкалата*

## Праграма Урачыстасцяў Св. Яна Хрысціцеля ў Мосары 23-24 чэрвеня 2012 года

**Падчас парафіяльнага Адпуста Святога Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня шмат пабожных людзей збіраецца ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўі, вызваленні ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і блаславенне, аб якіх прыходзяць прасіць святога Юстына.**

**Адзначэнне парафіяльнага свята ў Мосары ў гэтым годзе будзе па наступным раскладзе:**

**23 чэрвеня (субота).**

**10:00** – Святая Імша з навукай.

**11:00** – Малітва на Ружанцы за сем'і, моладзь і дзяцей каля капліцаў.

**13:00** – Святая Імша з навукай.

**14:00 – 16:30** – адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў капліцы.

**17:00** – Акафіст з удзелам хору Уніяцкай царквы з г. Віцебска і г. Полацка і малітва ва ўсходнім абрадзе.

**18:00** – Святая Імша з навукай.

**19:00** – малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры.

**24 чэрвеня (нядзеля). Урачыстасць Святога Яна Хрысціцеля.**

**10:00** – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.

**12:30** – літанія да святога Юстына.

**13:00** – Урачыстая Святая Імша, якую будзе цэлебраваць Яго Эксцэленцыя ксёндз-біскуп Уладзіслаў Блін – Ардынарый Віцебскай дыяцэзіі. Пасля – Працэсія вакол касцельнай зямлі.

**14:30** – выступленне парафіяльнага хору "Fiat" з парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў г. Мёры.

***Ксёндз Аляксей Юркайць***

# ЯК ВЕЦЕР

■ **а. Тамаш Міка OP**, *душпастыр моладзі, парафія св. Барбары, Віцебск*



Уявіце сабе вялікі луг. Недзе здалёк бачна роўная лінія гарызонту. Колер лугу светла-зялёны, насычаны, дзе-нідзе ператкані жоўтымі дзьмухаўцамі, белымі і фіялетавымі люпінамі. Вы стаіце сярод травы, кветак і бачыце, як далікатны вецер праплывае па лузе. Шырока раскрываеце рукі, адчуваеце цеплыню гэтага ветру паміж пальцамі. Адчуваеце яго на шчоках так, што хочацца раскрыць вусны, каб ён патрапіў унутр. Гэтым лугам з'яўляецца вашая жыццёвая прастора. Але не яна важная. Самы важны – вецер, які робіць так, што не прамяняеце гэты луг на ніводзін іншы. Менавіта вецер чыніць, што хочацце дыхаць шырока раскрытымі вуснамі, што можаце лунаць, як арол. Адчуваеце свабоду, волю.

Слова, якім Дух Святы названы ў Біблії, – РУАХ. Гэта значыць, вецер – далікатны, асвяжальны павеў, які пранікае паміж пальцамі. Узгадаем урывак са Святога Пісання: *І сказаў: выйдзі і стань на гары перад абліччам Гасподнім; і вось Гасподзь пройдзе, і вялікі і моцны вецер, які раздзірае горы і крышыць скалы перад Гасподам, але не ў ветры Гасподзь; пасля ветру – землятрус, але не ў землятрусе Гасподзь; пасля землятрусу – агонь, але не ў агні Гасподзь; пасля агню – веянне ціхага ветру, і там Гасподзь (Трэцяя кніга Царстваў, 19, 11-13).*

Часам варта, калі чытаем Біблію і бачым слова "вецер", прачытаць яго як "Дух". У гэтым няма нічога новага. Гэта ўжо рабілі Айцы Касцёла: калі з'яўлялася слова "вецер" – заўсёды чыталі "Дух". Найлепшым прыкладам злучэння ветру і Духа ў Пісанні ёсць прарок Эзэкііль, які прарочыць над высахлымі касцьмі: *ад чатырох вятроў прыйдзі, Дух, і дыхні на гэтых забітых, і яны ажывуць (Кніга Прарока Эзэкііля 37, 9).* Адным словам, чалавек, які не кліча Духа Святога, – гэта высахлыя косці, без жыцця.

**Дух Святы менавіта для таго, каб Яго адчуваць, а не пра Яго ведаць.**

Аднак вецер – толькі знак Духа Святога. У жыцці для нас больш важны вопыт, чым тлумачэнне, адчуванне сэрцам – чым веданне. Дух Святы менавіта для таго, каб Яго адчуваць, а не пра Яго ведаць. Пра гэта нам кажа наступны ўрывак Біблії, які ўжо не выражае ветру, але гаворыць пра нешта больш інтымнае, унутранае – пра дыханне: *І ўсякі польны хмызняк, якога яшчэ не было на зямлі, і ўсякую польную траву, якая яшчэ не расла; бо Гасподзь Бог не пасылаў дажджу на зямлю, і не было чалавека, каб урабляць зямлю; але пара падымалася з зямлі і расіла ўсё ўлонне зямлі. І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога, і ўдыхнуў у твар ягоны дыханне жыцця, і зрабіўся чалавек душою жывою (Быццё, 2:5-7).*

Варта, каб мы паставілі сабе пытанне: як Бог мог дыхнуць у твар чалавека сваё дыханне? Паспрабуйце гэта ўявіць. Адзіны вобраз, які прыходзіць на думку, – гэта пацалунак. Айцец Нябесны пацалаваў цябе, пацалаваў мяне. Пацалунак далікатны і, разам з тым, поўны жыцця магчымы толькі паміж закаханымі. Ён, наш Айцец Нябесны, закаханы ў нас так моцна, што ажывіў нас сваім уласным дыханнем. Зрабіў нам "штучнае дыханне", якое дае жыццё. Дух Святы як вецер у некалькіх словах – гэта спакой, далікатнасць, дабрыня, інтымнасць і бяспека.

Не можам забываць таксама, што РУАХ / ДУХ – гэта не толькі лагодны дружалюбны вецер. Дух Божы, які лунаў над вадою (Быццё, 1, 2), мае характар. РУАХ / ДУХ БОЖЫ тут, як гвалтоўная віхура, сіла, што стварае моц, якая перамяняе жыццё, пераварочвае яго дагары нагамі. А можа лепш – пачынае яго парадкаваць. Той самы Дух, тая самая віхура з'яўляецца ў Дзеяннях Апосталаў: *І раптам зрабіўся шум з неба, як бы ад павеву моцнага ветру, і напоўніў увесь дом, дзе яны былі. І з'явіліся ім языкі падзеленыя, як бы вогненныя, і апусціліся па адным на кожнага з іх. І напоўніліся ўсе Духам Святым і пачалі гаварыць на іншых мовах, як Дух даваў ім вяшчаць (Дзеі Святых Апосталаў, 2:2-4).*

**Ён, наш Айцец Нябесны, закаханы ў нас так моцна, што ажывіў нас сваім уласным дыханнем.**

Такі бурны быў той шум, так грымнула, што ўсе з Ерусаліма збегліся. Увогуле калі мы чуем гром, то баімся, хаваемся пад ложак, пад стол, у падвале. Давайце падумаем: калі б мы пачулі, што на плошчы Перамогі ў Віцебску будзе тарнада, то ніхто не прыбег бы, каб на яго глядзець. Хутчэй, усе людзі з навакольных будынкаў былі б эвакуяваны. У гэтым выпадку зусім інакш. Гэтая неўтаймаваная сіла дзіўная, бо не выклікае страху, а наадварот, прыцягвае і зачароўвае. Што здарылася потым, добра ведаем – 3000 людзей навярнулася.

Будзьма асцярожнымі з заклікаеннем Духа Святога. Ніколі не ведаем, як да нас прыйдзе. Можа быць далікатны і чуллівы, як павеў, як пацалунак каханага. Можа быць дзікі і неўтайма-ваны, як тарнада. Ён ведае лепш, што нам патрэбна. Таму калі хочаш жыць па-старому і нічога не змяняць, калі хочаш надалей заставацца ў сваіх слабасцях, звычках, грахах, калі не хочаш быць жывым сведкам Хрыста, тады адна парада: не заклікай Духа Святога. Калі Яго паклічаш, будзь падрыхтаваны да зменаў, бо гэта: Вецер, які дыхае, дзе хоча, і голас ягоны чуеш, а не ведаеш, адкуль прыходзіць і куды сыходзіць: так бывае з кожным, народжаным ад Духа (Ев. Яна, 3, 8).

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**17 чэрвеня 2012 г. Мк. 4, 26-34**

Езус гаворыць пра Божае Валадарства і яго законы. Ён таксама расказвае пра прынцыпы і правілы будаўніцтва божага жыцця ў нас і паміж намі. Божае жыццё расце ў нас, як пасеянае зерне. Занятыя штодзённымі справамі, мы часта не заўважаем гэтага росту. У будаўніцтве нашай еднасці з Богам не застаёмся самотнымі. Гэта Бог дае рост. Гэта Ён – Пан таямніцы жыцця. А мы – Яго супрацоўнікі. Божыя справы ў нашым жыцці часта здаюцца малымі і нязначнымі, як гарчычнае зерне. А потым Бог, прысутны ў нашым сэрцы, робіць вялікія справы. Бо логіка Божых спраў і Божай моцы перарастае людское разуменне.

Езус навучае пра Божае Валадарства. Трэба нам уважліва ўдумвацца ў Яго навуку, каб лепш разумець прынцыпы яго дзеяння, каб умець супрацоўнічаць з Богам у развіцці Яго Валадарства ў нашым жыцці.

*– Ці разумею, што Божае Валадарства – у маім сэрцы?*

*– Ці задумваюся над тым, паводле якіх прынцыпаў Бог хоча будаваць маю еднасць з Ім?*

*– Ці прыстасоўваюся да іх?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Ці памятаю, што галоўны ў працэсе ўзрастання нашай любові – Ён?*

*– Ці супрацоўнічаю з Ім у развіцці Божага жыцця ўва мне і вакол мяне?*

*– Ці не пазіраю задужа па-людску на Божыя справы ў маім жыцці?*

*– Ці не стараюся прынізіць Божыя справы да ўзроўню людскіх?*

*– Ці не прымяншаю значнасці Божых спраў у будаўніцтве Божага Валадарства?*

**24 чэрвеня 2012 г. Лк. 1, 57-76, 80**

Ян Хрысціцель быў чалавекам, які падрыхтаваў выбраны народ для спаткання са Збаўцам.Ён указаў на Езуса: "Гэта Баранак Божы". Духоўнае развіццё гэтага чалавека – гэта супрацоўніцтва з Божай ласкай яго і іншых людзей. Зачаты па слове анёла Габрыэля, узварухнуўся ў лоне сваёй маці, калі іх наведала цяжарная Маці Божая. Яго бацькі далі яму імя згодна з Божай воляй. Людзі пыталіся, што гэта будзе за чалавек, а ён рос і ўзмацняўся духам. Ахрысціў Езуса ў Іардане. Гэты вялікі настаўнік ізраільскага народа – для нас прыклад чалавека, які праз усё жыццё супрацоўнічаў з Божай ласкай. Гэта Божы Дух дапамагае нам узрастаць і быць здольнымі ўдзельнічаць у Божых справах.

*– Ці не пераацэньваю сваёй ролі ў Божых справах?*

*– Ці не забываюся пра Пана Бога?*

*– А можа, абдумваю свае планы?*

*– Ці памятаю пра Божую волю?*

*– Ці разважаю?*

*– Ці паслухмяны Божым натхненням?*

*– Ці не затрымаўся на якім-небудзь этапе духоўнага развіцця?*

*– Ці ўмею заўважыць Божыя справы ў маім жыцці?*

*– Ці дзякую Богу за перамены, якія адбыліся ўва мне?*

*– Ці іду за Яго натхненнямі з даверам і аж да канца?*

*– Ці верны Божай волі?*

**1 ліпеня 2012 г. Мк. 21-43**

Часта думаем, што вера – гэта прызнанне некаторых тэалагічных праўдаў. А тым часам вера – гэта давер Езусу. Гэта надзея на тое, што Ён Збаўца. Гэта даверлівае звяртанне да Яго ва ўсіх жыццёвых выпрабаваннях. Езус усё здольны перамяніць. Вера – гэта не "цудоўная энергія", а асабістае спатканне з Езусам-Збаўцам. Вялікім выпрабаваннем для веры з'яўляецца страх. Езус вучыць нас пераадольваць наш страх. Гаворыць: "Не бойся, а толькі вер". Сапраўдная вера перарастае страх, смерць і насмешкі людзей, якія не разумеюць, з кім мы маем справу.

*– Ці веру Богу, калі цяжка?*

*– Ці з верай перажываю няўдачы і выпрабаванні?*

*– Ці памятаю, што ў канцы жыцця стану перад Божым судом?*

*– Ці прыношу з даверам усе свае праблемы Богу?*

*– Ці гатовы прыняць тое, што Ён дапускае: хваробу, смерць…?*

*– Ці веру, што Ён большы, чым мая хвароба, смерць?*

*– Ці змагаюся са сваімі страхамі?*

*– Ці стараюся, каб яны не перашкаджалі мне даяраць Богу?*

*– Ці не перажываю залішне насмешкі і неразуменне людзей, якія не ведаюць Божых спраў?*

**8 ліпеня 2012 г. Мк. 6,1-6**

Блізкія Езуса заўважылі выключную мудрасць Яго, ведалі пра ўчыненыя Ім цуды, ведалі Яго асабіста – і ўсё ж сумняваліся ў Ім. Такія адносіны – знак бязвер'я. У цудах Езуса, у Яго мудрасці не ўбачылі адзнакі Божых спраў. Не хапіла ім веры ў тое, што Бог прыйшоў да іх штодзённага жыцця. Што Ён сярод іх спраў, сярод іх знаёмых.

*– Ці бачу Божую моц вакол сябе?*

*– Ці цаню яе?*

*– Ці слаўлю Бога за гэта?*

*– Ці дзякую Богу за тое, што Ён зрабіў у маім жыцці, а таксама ў жыцці маіх блізкіх?*

*– Ці не пагарджаю Божымі справамі, якія адбыліся ў маім жыцці?*

*– Ці не пагарджаю сваім жыццём і пакліканнем?*

*– Ці не пагарджаю сваёй парафіяй, сваімі сябрамі, сваімі святарамі?*

*– Ці разумею, што такая пагарда – гэта недахоп веры і адкіданне Божай ласкі?*

*– Ці разумею, што праз недавер закрываюся на Бога і не дазваляю Яму чыніць цуды ў маім жыцці?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**



# ДЗЕНЬ СЯМ'І Ў ЛУЧАІ

**Парафія св. Юды Тадэвуша-апостала ў Лучаі (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) запрашае сужэнцаў, а таксама кожнага ахвотнага прыехаць на свята сям'і, якое будзе праводзіцца сёлета 30 чэрвеня. Пачатак – а 16:00.**

На сутрэчу асабліва запрашаем сужэнцаў, якія ў гэтым годзе адзначаюць свой юбілей супольнага жыцця ці нейкую іншую круглую гадавіну шлюбу. На наша свята запрошаныя святары, што займаюцца душпастырсвам сем'яў, а таксама спецыялісты і дарадчыкі сямейнага жыцця, прадстаўнікі супольнасці "Сужэнскія сустрэчы". Будзе магчымасць падзяліцца сваім досведам.

Пасля літургіі запланаваны канцэрт вядомага беларускага артыста. Юбіляраў просім паведаміць загадзя пра свой удзел.

**Тэлефон для кантакту: +37529 2135573**

*Кс. Мікалай Лінскі*

# Гудагай запрашае!

## VI Нацыянальная пілігрымка сем'яў

**Рада па справах сям'і пры епіскапаце Беларусі разам з душпастырствам сем'яў Гродзенскай дыяцэзіі запрашае на VI Нацыянальную пілігрымку сем'яў у санктуарый Маці Божай Гудагайскай. Пройдзе яна 14 ліпеня.**

**10.30** — прывітанне
**10.45** — канферэнцыя
**11.30** — Ружанец
**12.00** — святая Імша (узначаляць – біскуп Аляксандр Кашкевіч і біскуп Антоні Дзям'янка)
**14.00** — абед
**15.00** — Крыжовы шлях
**16.30** — развітанне і благаслаўленне.

**Падрабязная інфармацыя па тэлефонах:**

+375 29 280 91 25 адказны за пілігрымку кс. Андрэй Стапыра (Гродзенская дыяцэзія)
+375 29 639 18 40 кс. Станіслаў Вашкевіч SAC (Пінская дыяцэзія)
+375 29 587 33 83 кс. Алег Півавар (Віцебская дыяцэзія)
+375 29 278 28 75 а. Пётр Бялевіч(Мінска-Магілёўская архідыяцэзія).

Арганізатары запрашаюць таксама застацца на парафіяльную ўрачыстасць, якая адбудзецца 15 ліпеня.

# Школа сямейнага жыцця запрашае!

**Школа сямейнага жыцця Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Школа сямейнага жыцця ў Гродне абвяшчаюць набор слухачоў на 2012 / 2013 год. Запісацца можна па тэлефоне да 31 жніўня гг. кожны дзень з 9 да 15 гадзін.**

**Тэлефоны:**
+375 29 261 10 59 Ірэна Шмак, Школа сямейнага жыцця ў Мінску;
+375 29 588 42 73 Ірына Мялешка, Школа сямейнага жыцця ў Гродне.

**Неабходныя дакументы:**
- просьба аб прыняцці ў Школу сямейнага жыцця;
- біяграфія;
- рэкамендацыя пробашча;
- два фотаздымкі;
- копія пасведчання аб заканчэнні школы;
- копія пашпарта.

**Мэта і задачы вучобы ў Школе сямейнага жыцця:**

1. Мэтай вучобы з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў для працы ў сямейных кансультацыях.

2. Супрацоўнікі сямейных кансультацый павінны ўмець падтрымліваць сем'і і дапамагаць ім змагацца з праблемамі, напрыклад, з алкагалізмам, пагрозай разводу, самотным мацярынствам і інш. Таму ў праграме навучання прысутнічаюць псіхалагічныя дысцыпліны і прадугледжаны практычныя заняткі.

3. Асобы, якія працуюць у сямейных кансультацыях, павінны быць каталіцкімі вернікамі. Таму ў праграме навучання ёсць базавыя тэалагічныя і этычныя прадметы.

4. На вучобу ў Мінск прымаюцца не толькі католікі. Навучанне тут мае экуменічны характар, таму запрашаюцца прадстаўнікі розных веравызнанняў, а таксама асобы, што не вызнаюць ніякай рэлігіі, але цікавяцца дабрынёй сям'і.

5. У дадатак навучанне забяспечвае атрыманне грунтоўных ведаў на тэму натуральных метадаў распазнавання плоднасці.

Вучоба ў Школе сямейнага жыцця працягваецца 3 гады. Заняткі адбываюцца раз на месяц і пачынаюцца вечарам у пятніцу, доўжацца ў суботу і заканчваюцца ў нядзелю да абеду. На працягу года плануецца 8 сустрэч – з кастрычніка па май. Агульная колькасць гадзін — 432.

Заканчэнне Школы сямейнага жыцця стане асновай атрымання кананічнай місіі для працы з сем'ямі ў каталіцкіх сямейных кансультацыях.

*Рада па справах сям'і пры ККББ*



# Каштоўная знаходка

11 чэрвеня ў 15 гадзін 20 хвілін падчас працы па ўсталяванні апор электраперадач брыгадай Верхнядзвінскага ўчастка Белсельэлектрасетбуда БМУ-2 ля касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім быў адкапаны касцёльны звон 1882 года.

Каштоўную знаходку адкапаў бурыльшчык Генадзь Кузняцоў.

На звоне можна прачытаць надпіс на польскай мове: "Ліў А. Зваліньскі у Варшаве". Больш дакладная гісторыя гэтага сапраўднага скарба будзе высвятляцца гісторыкамі і краязнаўцамі.

**Алена Пажога**, *тэкст;*
**Марыны Сінкевіч**, *фота*

## Віншуем!

*Паважаны ксёндз Чэслаў Куцмеж, віншуем Вас з 25-годдзем святарскага жыцця. За той нядоўгі час, што працуеце ў нашай парафіі, для нас Вы сталі родным і дарагім чалавекам. Як Добры Пастыр беражэ свой статак, так і Вы атуляеце клопатам наш касцёл і кожнага з нас. Дзякуем Вам за адданую працу ў нашай парафіі, за ўсмешку, за добрае слова, з якімі заўсёды сустракаеце кожнага. Жадаем моцнага здароўя, трываласці, доўгіх гадоў жыцця. Няхай Усемагутны Бог дапамагае на Вашым нялёгкім святарскім шляху, а Маці Божая заўсёды Вас абараняе і падтрымлівае. Дзякуем Пану Богу за дар Вашага паклікання і абяцаем шчырую малітву.*

*З павагай і пашанай вернікі з парафіі св. Міхала Арханёла у Варапаеве*

## Віншуем!

*Ад усяго сэрца віншуем нашага ксяндза Зянона Шчонхара, які адзначае Імяніны 23 чэрвеня. Мы яму вельмі ўдзячныя за шчырую працу на ніве Божай, за духоўную апеку, клопат і ўвагу да дзяцей і кожнага, хто шукае Божай падтрымкі. Жадаем кс. Зянону моцнага здароўя, Божага благаславення на яго святарскім шляху, а таксама шчодрых дароў Духа Святога!*

*Вернікі парафіі ў Відзах*

## З Днём нараджэння!

*Шаноўны ксёндз Павел Самсонаў! 15 чэрвеня – Ваш Дзень нараджэння. Горача віншуем Вас і складаем сардэчныя пажаданні шчасця і апекі Маці Божай. Вы нястомны, заўсёды ў пошуку, не шкадуеце сіл і здароўя ў штодзённай святарскай працы. Шчыра дзякуем за змястоўныя казанні, за цудоўны голас, за спевы, за цярпенне, разуменне і падтрымку, за густоўна зробленыя дэкарацыі.*

*Няхай Пан Бог дапамагае Вам у плённай працы па рэстаўрацыі нашай святыні, а Езус Хрыстус адорвае ласкай і любоўю!*

*Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў в. Дунілавічы*

## З Днём нараджэння!

*Віншуем шаноўнага айца Андрэя Жылевіча з Днём нараджэння, які ён адзначае 19 чэрвеня.*

*З нагоды гэтага свята жадаем яму моцнага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага спакою і шмат Божай ласкі.*

*Дарагі ойча, няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і Святы Заступнік нястомна апякуюцца табой, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі.*

*Няхай навокал цябе заўжды будуць шчырыя і зычлівыя людзі!*

*Твае бацькі і брат з сям'ёй*

## З Днём нараджэння!

*Сардэчна віншуем нашага кс. Паўла Самсонава з Дунілавіцкай парафіі з Днём нараджэння, які ён адзначае 15 чэрвеня.*

*Жадаем, каб яго жыццёвы шлях быў доўгім і шчаслівым. Дзякуем за старанную працу, за рамонт, які вядзецца ў касцёле, за шчырыя малітвы і навукі для людзей. Моцнага Вам здароўя, паважаны кс. Павел! Хай Добры Бог аберагае Вас ад бедаў і дапамагае ў Вашых справах.*

*Удзячныя парафіяне з вёскі Даравое*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4732

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2600 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 12.06.2012 г. у20.48

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ